**У НУМАРЫ:**

*Дыскусійная трыбуна.* ОРГАНЫ МЯСЦОВАГА САМАКІРАВАННЯ: "ЗА" ЦІ "СУПРАЦЬ". — 2

*Сто артыкулаў з гісторыі Беларусі.* НОВЫЯ ФАКТЫ З БІЯГРАФІІ ФАДЗЕЯ БУЛГАРЫНА. — 2—3

*Ёсць пытанне!*

*Адам і Ева.* — 3

*Дайджэст прэсы.* Кінаафіша. — 4



13 снежня 1994 г.
Аўторак
№ 134 (13851)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА





Малюнак В.САКОВІЧА.



*Лейтэнант Андрэй Фільчанка, намеснік начальніка па рабоце з асабовым саставам заставы Брэсцкага пагранатрада, — карэнны брастаўчанін, марыў пра граніцу з дзяцінства. Сёлета ён закончыў славуты Галіцынскі інстытут погранвойск.*

Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### НАРАДА КІРАЎНІКОЎ УРАДАЎ СНД

*Намаганні дзяржаў СНД да інтэграцыі набываюць, здаецца, рэальныя абрысы. Пацвярджэнне гэтаму — праведзенае 8 снежня ў Маскве пасяджэнне Савета кіраўнікоў урадаў СНД.*

На пасяджэнні разгледжана 19 дакументаў, якія, несумненна, стануць базавымі ва ўсім спектры эканамічных адносін паміж дзяржавамі ў рамках Садружнасці.

### ПАДАРУНАК МАКСІМУ

*Свае падарункі лепшаму з паэтаў зямлі беларускай прынеслі ў дзень яго нараджэння мастакі і скульптары. 9 лістапада ў літаратурным музеі Максіма Багдановіча, што ў Траецкім прадмесці Мінска, адкрылася рэтраспектыўная выстава твораў жывапісу, скульптуры, графікі пад назвай "Быць можа я не скончу жыць". Падзея прымеркавана да 103-й гадавіны з дня нараджэння паэта.*

Гарвыканкам Мінска планує зрабіць музей у аднОўленым будынку, дзе некалі нарадзіўся Максім Багдановіч.

**БЕЛІНФАРМ.**

### ДА СІТУАЦЫІ Ў ЧАЧНІ

*Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.І.Грыб зрабіў афіцыйную заяву для прэсы аб сітуацыі ў Чачні.*

"Тое, што адбываецца ў апошнія дні вакол Грознага — гэта, і тут няма ніякіх сумненняў, унутраная справа Расіі. Ніхто не мае права ўмешвацца ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы. Разам з тым шчыра перакананы, што нават такія складаныя, крызісныя сітуацыі як сёння ў Чачні, можна і трэба вырашаць без танкаў і чалавечых ахвяр. Лепш, зразумела ж, было не запускаць праблему. Але калі ўжо яна перарасла ў канфлікт, палітыкам і ваенным трэба не забываць: стол перагавораў мацней, хутчэй, больш надзейна, чым танкавая браня забяспечвае прыход згоды, міру".

### МІСІЯ ААН

*Па 23 снежня ў Беларусі будзе працаваць місія цэнтра ААН па правах чалавека.*

Як паведамілі ў прадстаўніцтве ААН у Рэспубліцы Беларусь, у ходзе работы будуць разгледжаны пытанні агульнага становішча з правамі чалавека на Беларусі.

### ДОБРА МЕЦЬ СВОЙ ДОМ І МАМУ

*Нарэшце прыйшло свята і ў першую ў рэспубліцы дзіцячую вёску, якая будуецца пад Кобрынам. Днямі тут прайшлі ўрачыстасці з нагоды яе адкрыцця.*

З-за фінансавых цяжкасцей тэрміны ўводу ў строй такога незвычайнага аб'екта неаднаразова адкладваліся. Наўрад ці ўдалося б справіць наваселле і ў гэтыя дні, каб не ўзялі над будаўніцтвам шэфства нямецкая фірма "Тэхаві" і некаторыя ўплывовыя жыхары зямлі паўночны Рэйн-Вестфалія. Таму разам з прадстаўнікамі Міністэрства адукацыі і навукі Беларусі, кіраўнікамі вобласці яны па праву занялі месца сярод самых ганаровых гасцей свята. Пасля афіцыйнай часткі і мноства цёплых і добрых слоў адбыўся вялікі канцэрт, падрыхтаваны дзіцячымі калектывамі мастацкай самадзейнасці Брэста і Кобрына.

Пакуль дзіцячымі галасамі напоўніцца шэсць дамоў. Крыху пазней да іх дабавіцца яшчэ два, ужо выведзеныя пад дах. Як расказаў дырэктар дзіцячай вёскі Мікалай Васілеўскі, у кожным доме будуць жыць разам з мамамі-выхавальніцамі пяць—сем дзяцей, якія пакінуць казённыя сцены дзіцячых дамоў-інтэрнатаў. Маладыя жанчыны, якія сталі адразу мнагадзетнымі мамамі, прайшлі нялёгкі конкурсны адбор, маюць спецыяльную адукацыю. Усе яны цудоўна разумеюць, якая нялёгкая праца чакае іх наперадзе. Можна толькі парадавацца за тых некалькі дзесяткаў дзяцей-сірот, якія набылі сем'і. Думаецца, што гэта падзея будзе для іх самым дарагім навагоднім падарункам у жыцці.

**БЕЛІНФАРМ.**

### АКАДЭМІЯ ГЕАПАЛІТЫКІ

*афіцыйна зарэгістравана нядаўна ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь.*

Акадэмія правяла круглы стол "Сацыяльна-палітычная сітуацыя ў Рэспубліцы Беларусь". У яго рабоце прынялі ўдзел вядучыя вучоныя краіны, гаспадарчыя кіраўнікі, лідэры шэрагу палітычных партый.

**Ігар КАТЛЯРОЎ.**

### ЗАСТАЕЦЦА ПАМЯЦЬ

*Вуліца Л.Бірукова пачала забудоўвацца ў Бягомлі.*

Зямны шлях былога начальніка штаба партызанскай брыгады "Жалязняк", якая некалі дыслацыравалася ў гарадскім пасёлку, закончыўся, але засталася памяць.

**Уладзімір МІХНО.**

### З ДРАПЕЖНІКАМІ НЕ ЖАРТУЮЦЬ

*Занадта шмат у апошні час на Гомельшчыне развялося ваўкоў — іх налічылі ажно 450. Як лічаць спецыялісты, гэтаму садзейнічала адмена грашовага заахвочвання паляўнічых за кожнага забітага ваўка.*

Успомніў пра гэта і аблвыканкам, дзе нядаўна прынята пастанова, згодна з якой паляўнічы за кожнага забітага дарослага ваўка атрымае 5 мінімальных зарплат, а за ваўчыцу — 7. У якасці заахвочвання прадугледжаны таксама бясплатныя ліцэнзіі на адстрэл капытных жыхароў лесу. Для арганізацыі палявання на ваўкоў у асенне-зімовы перыяд 1994—1995 г.г. абласному таварыству паляўнічых і рыбаловаў выдзелена 7 мільёнаў рублёў.

### УКРАЛІ СВЯТЛАФОР

*На адным з самых ажыўленых перакрыжаванняў вуліц Б.Хмяльніцкага і Палескай у Чыгуначным раёне Гомеля са слупа ўкрадзена апаратура кіравання са святлафора, без якой ён не можа міргнуць ні адным вокам.*

Выпадкаў, падобных на гэты, не прыпомняць у праваахоўных органах горада.

**Васіль БАРХАНАЎ.**

### СЕНСАЦЫІ НЕ АТРЫМАЛАСЯ

*Усяго тыдзень спатрэбіўся супрацоўнікам гродзенскай міліцыі, каб раскрыць крадзеж, што стаў сенсацыяй года. Амерыканскія цыгарэты і імпартнае мыла на суму звыш 40 тысяч даляраў былі ўкрадзены з падсобных памяшканняў сумеснага беларуска-сірыйскага прадпрыемства ў абласным цэнтры.*

Супрацоўнікам Ленінскага РАУС горада пры дапамозе калег з Ваўкавыску, Мастоў і Шчучына ўдалося затрымаць злачынцаў, знайсці і канфіскаваць украдзенае.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### Курсы валют на 12 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 8550 | 8800 | 5536 | 5612 |
| "Прыор" | 8600 | 8800 | 5460 | 5580 |
| "Дукат" | 8500 | 8750 | 5300 | 5600 |

## Прэзідэнцкі Указ як інструмент для будаўніцтва "Прэзідэнцкай вертыкалі ўлады"

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў Указ "Аб часовым палажэнні і парадку назначэння на пасады і вызвалення ад пасад старшынь абласнога, раённага, гарадскога выканаўчых камітэтаў, а таксама службовых асоб, якія ўваходзяць у састаў названых выканаўчых камітэтаў".

У адпаведнасці з палажэннем старшыня аблвыканкама назначаецца прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на пяць гадоў, зацвярджаецца абласным Саветам дэпутатаў і мае права займаць гэту пасаду не больш чым два тэрміны запар. Ён не можа знаходзіцца на абавязковай ваеннай службе, не мае права займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю, а таксама выконваць іншую аплачваемую работу, акрамя выкладчыцкай, творчай і навукова-даследчай (калі яна не звязана з займаннем штатных пасад).

Кандыдатура, назначаная прэзідэнтам на пасаду старшыні выканкама, уносіцца ім на зацвярджэнне аблсавета, які прымае па ёй рашэнне адкрытым галасаваннем. Для зацвярджэння неабходна большасць галасоў выбраных дэпутатаў. Калі кандыдатура не праходзіць, прэзідэнт у тым жа парадку ўносіць іншую. Пры паўторнай адмове аблсавета рашэнне прэзідэнта па гэтай або іншай кандыдатуры лічыцца канчатковым.

Старшыня аблвыканкама можа быць вызвалены ад пасады прэзідэнтам, у тым ліку па прадстаўленню аблсавета, калі ён парушае або не выконвае Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, пастановы Вярхоўнага Савета, акты, якія выдае прэзідэнт і Кабінет Міністраў, калі ён сістэматычна не выконвае службовыя абавязкі, у тым ліку на працягу чатырох месяцаў запар па стану здароўя. Старшыня можа пакінуць пасаду ў адпаведнасці з яго заявай аб адстаўцы, а таксама ў іншых прадугледжаных заканадаўствам выпадках. Пры датэрміновым вызваленні, а таксама ў выпадку смерці старшыні яго абавязкі да назначэння новага старшыні выконвае першы намеснік або па рашэнню прэзідэнта іншая асоба.

Старшыня рай-, гарвыканкама назначаецца на пасаду і вызваляецца ад яе старшынёй аблвыканкама па ўзгадненню з прэзідэнтам і зацвярджаецца адпаведным рай-, гарсаветам, які прымае рашэнне адкрытым галасаваннем. У выпадку незацвярджэння Саветам кандыдатуры старшыня аблвыканкама ўносіць іншую. Калі не зацвярджаюць і яе, старшыня мае права канчатковага рашэння.

Першы намеснік, намеснік старшыні, сакратар і члены абл-, рай-, гарвыканкама назначаюцца на пасады і вызваляюцца ад іх старшынёй адпаведнага выканкама. Пры гэтым старшыня аблвыканкама ўзгадняе кандыдатуры або сваё рашэнне з прэзідэнтам, а старшыня рай-, гарвыканкама — з вышэйстаячым выканкамам.

**Упраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. БЕЛІНФАРМ.**

**"ЧЗ" выступіла. Што зроблена?**

## След Чарнобыля

У адным з выпускаў нашай газеты пад рубрыкай "Дазвольце спытаць" быў змешчаны ліст Юрыя Доўгера з Наваполацкага раёна пад загалоўкам "Усе раяць, а хто дапаможа?". Сутнасць звароту ў рэдакцыю заключаецца ў наступным. Працуючы ў раённай "Сельгасхіміі" вадзіцелем, Доўгер некалькі разоў накіроўваўся ў Брагінскі раён — займацца дэзактывацыяй глебы. Даўно ягоныя паплечнікі, якія разам з ім вялі ачышчэнне забруджанай тэрыторыі, атрымалі пасведчанне ліквідатара. Для спадара Доўгера гэта "атрыманне" доўжылася да нядаўняга часу. Што крыўдна — затрымкі былі выкліканы рознай драбязой: то фотакартка згубіцца, то дакументы недзе "заблукаюць". "Так, страшэнная бяда Чарнобыль. Не дай Бог ёй паўтарыцца, але калі яна адбылася, дык давайце аддамо належнае тым, хто прымаў удзел у ліквідацыі наступстваў аварыі",—да такога вынёску прыходзіць спадар Доўгер напрыканцы свайго допісу.

На ліст у рэдакцыю прыйшоў водгук з Дзяржкамчарнобыля (дарэчы, якраз напярэдадні рэфармавання апошняга). Адказ канстатаваў, што пісьмо разгледжана. Больш таго, на момант яго паступлення пытанне аб выдачы Ю. Доўгеру пасведчання ўдзельніка ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС з прадастаўленнем адпаведных ільгот "ужо" было вырашана. Мажліва Ю.Доўгер занадта цярпліва паставіўся да адтэрміноўкі выдачы яму пасведчання, мажліва запознена звярнуўся ў вышэйшую інстанцыю і ў рэдакцыю, але ні ў першым, ні ў другім, пагадзіцеся, абвінаваціць яго ні ў якім разе нельга. Пісаць жа ў высокім кабінеце, што "пытанне ўжо вырашана" пасля гэткіх блуканняў па пакутах скаржніка недарэчна. За ім праглядае жаданне падкрэсліць: вось, маўляў, і скардзіцца не было прычыны, і запыт адпраўляць у Дзяржаўны камітэт не мела сэнсу, але, даруйце, на дварэ — 1994 год, колькі часу мінула пасля чарнобыльскай трагедыі, пэўне больш да месца сказаць у 1994 годзе, што пытанне не "ўжо", а "нарэшце" вырашана.

**А. АГІБАЛАВА.**
**Тэл. 68-28-32.**

## "Уорлднэт" — "Суперчэннэл" — "Еўраньюс"





*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*


### БЕРЛУСКОНІ ПАЎСТАНЕ ПЕРАД СУДОМ

*Прэм'ер-міністр Італіі Сільвіо Берлусконі атрымаў выклік у суд.*

Правасуддзе будзе весці размову з прэм'ер-міністрам з нагоды прад'яўленых яму абвінавачванняў у карупцыі.

### АБМЕН ПАСОЛЬСТВАМІ

*У сталіцы Ізраіля адкрыта іарданскае пасольства.*

Яно будзе знаходзіцца ў гарадской гасцініцы, а паслом Іарданіі прызначаны адзін з пасрэднікаў мірных перамоў з Ізраілем. Пасада пасла Ізраіля ў Іарданіі застаецца пакуль вакантнай.

### ПАПЯРЭДЗІЛІ СКАНДАЛ

*Пад націскам грамадскасці і з-за пагрозы міжнароднага скандалу ЗША вымушаны былі адмовіцца ад меркаванага выпуску паштовай маркі да 50-годдзя бамбардзіровак Хірасімы і Нагасакі.*

Як вядома, яе эскіз уяўляў сабой здымак ядзернага воблака з подпісам:"Жнівень 45-га. Атамныя бомбы паскорылі завяршэнне вайны"..

### НАВАДНЕННЕ Ў ШАТЛАНДЫІ

*Працяглыя дажджы сталі прычынай моцнай паводкі ў Шатландыі.*

200 чалавек засталіся без даху, 2 прапалі без вестак.

### ПАР – ЗА АДМЕНУ СМЯРОТНАЙ КАРЫ

*Урад Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі адобрыў праект закона аб адмене смяротнай кары.*

Для канчатковага зацвярджэння праект пададзены на разгляд парламента.

### МАНГОЛЫ СУПРАЦЬ ЗБЯДНЕННЯ

*У Манголіі прайшлі дэманстрацыі супраць збяднення насельніцтва, што адбываецца зараз у краіне.*

У маніфестацыях, якія праводзіліся па ўсёй Манголіі, прынялі ўдзел больш як 32 тысячы чалавек.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

БІЗНЕС-КЛАС

## КОЛЬКАСЦЬ УЛАСНІКАЎ РАСЦЕ

Усё больш жадаючых стаць уласнікамі з'яўляецца сярод вытворчых калектываў. У Міндзяржмаёмасці разглядаюцца заяўкі на раздзяржаўленне ад арэнднага прадпрыемства "Гомельбудматэрыялы", Гродзенскага завода аўтамабільных агрэгатаў і беларускай рэспубліканскай базы "Белімпартгандаль". Спіс жа прыватызаваных аб'ектаў дапоўнілі Мінская скургалантарэйная фабрыка імя Куйбышава і Мінскае вытворчае гарбарнае аб'яднанне. А ўсяго з пачатку года ў недзяржаўную форму ўласнасці пераўтвораны ў рэспубліцы 153 прадпрыемствы.

## БЕЛАРУСКІЯ КАНТАКТЫ

Медыцынскае абсталяванне і тавары аховы здароўя стануць цэнтрам экспазіцыі "Беларускія кантакты-94", якая пройдзе з 13 па 17 снежня на выставачных пляцоўках інстытута Белпраект.

У рабоце выстаўкі прымуць удзел больш як 90 фірм з 12 краін, у тым ліку Расіі, Украіны, Польшчы, Славакіі, краін Балтыі, Індыі і Ірана. У ліку экспанатаў выстаўкі — хірургічны інструмент, аперацыйныя свяцільні, бактэрыцыдныя апрамяняльнікі найноўшых мадэлей з Польшчы і Расіі. Беларусы прадставяць сучаснае трэнажорна-аздараўленчае абсталяванне. Арганізатарам гэтай выстаўкі стала кампанія "Экаінфармсістэма".

## ЗАЯВА ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

Ацэньваючы тэмпы нарастання эканамічнага крызісу ў Беларусі і фактычны зрыў кантрольных параметраў "Праграмы неадкладных мер", падпісанай прадстаўнікамі дзелавых колаў сумесна з прэзідэнтам рэспублікі, Кабінетам Міністраў, Нацыянальным банкам і Федэрацыяй прафсаюзаў, Беларуская канфедэрацыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў звярнулася з заявай да Аляксандра Лукашэнкі аб неабходнасці неадкладнага правядзення "круглага стала" па праблемах эканамічнай стратэгіі і сацыяльнага партнёрства, падпісання генеральнага пагаднення паміж аб'яднаннямі наймальнікаў і кіраўніцтвам рэспублікі.

БЕЛІНФАРМ.

## НАБЫЛІ САМІ

На чарговым, трэцім па ліку, аршанскім аўкцыёне па продажу гарадской камунальнай уласнасці з 8 аб'ектаў, выстаўленых на продаж, 5 знайшлі сваіх законных гаспадароў. Горад атрымаў ад аўкцыёну даход у суме 250 мільёнаў рублёў.

Адметнасць аўкцыёну ў тым, што ўласнікамі трох магазінаў, выстаўленых на продаж, сталі працоўныя калектывы гэтых магазінаў.

Яўген БРАЖЫЦКІ.

## "ТУРБІЗНЕС–94"

з 7 па 10 снежня ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры працавала прадстаўнічая міжнародная турыстычная біржа "Турбізнес-94". На ёй больш чым 100 фірм з нашай рэспублікі, краін блізкага і дальняга замежжа прапанавалі разнастайныя маршруты падарожжаў у многія краіны Еўропы, Амерыкі, Азіі і Афрыкі.

Беларускі бок прадстаўлялі шматлікія турыстычныя фірмы з розных гарадоў рэспублікі, у тым ліку і вядомы ва ўсім свеце "Белінтурыст".

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

## ХОЧАЦЕ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА ПРАДУКТЫ?

Учора ў Мінску ў выставачным комплексе "Мінскэкспа" пачала работу Міжнародная выстаўка "Гастранамія і бюро-94".

Яе ўдзельнікамі з'яўляюцца прадпрыемствы з Германіі, Літвы, Расіі і Беларусі. На выстаўцы шырока прадстаўлены мясныя і малочныя прадукты, спіртныя і безалкагольныя напіткі, садавіна, а таксама халадзільнае абсталяванне для рэстаранаў, бараў і кафэ, офісная мэбля.

Выстаўка завершыць работу 16 снежня.

БЕЛІНФАРМ.

КУР'ЕР "ЧЗ"

## У НОВЫ ГОД – З МАЯНЭЗАМ

*Цэх па вытворчасці 600 тон маянэзу ў год адсвяткаваў наваселле на Гарадоцкім харчовым камбінаце.*

Адначасова прыняты ў эксплуатацыю цэх па вытворчасці кандытарскіх вырабаў на камбінаце "Віцьба", уведзены магутнасці па рэктыфікацыі спірту ў Чашніках і ў калгасе "Чырвоны сцяг" Пастаўскага раёна.

## З БУТЭЛЬКАЙ НА ТОЙ СВЕТ

*За 11 месяцаў бягучага года ў Беларусі ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінула 339 чалавек, паведаміў намеснік начальніка Дзяржаўнай інспекцыі працы Уладзімір Ласкаўнеў.*

Найбольшая колькасць загінуўшых — на прадпрыемствах Мінскай вобласці. За гэты ж час 78 выпадкаў здарылася з работнікамі, якія выконвалі свае працоўныя абавязкі ў нецвярозым стане. З іх 53 чалавекі загінулі, 25 сталі інвалідамі.

Эканамічныя вынікі гібелі і інваліднасці работнікаў у выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці велізарныя. Паводле самых асцярожных ацэнак, яны эквівалентныя 70 тысячам амерыканскіх даляраў у разліку на аднаго пацярпеўшага.

БЕЛІНФАРМ.

## КНІЖНЫ АБМЕН БЕЗ МЕЖАЎ

*У Мінску, у штаб–кватэры СНД, завяршылася двухдзённае пасяджэнне паўнамоцных прадстаўнікоў і экспертаў дзяржаў — удзельніц Садружнасці па абмеркаванню праекта пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання і паліграфіі.*

Пагадненне заклікана садзейнічаць пашырэнню інфармацыйных міждзяржаўных кантактаў, забяспечваць свабодны абмен кніжнай прадукцыяй.

Праект пагаднення прадстаўлены для падпісання кіраўнікам урадаў СНД.

Святлана КУЛІКОВА.

## МІСІЯ ДАБРЫНІ

*Група юнакоў і дзяўчат са Злучаных Штатаў Амерыкі, што прадстаўляюць фірму "Сіці хоўп інтэрнэшнл" наведала Гродна з дабрачыннай хрысціянскай місіяй.*

Госці пабывалі ў гарадскім рэабілітацыйным цэнтры для дзяцей-інвалідаў і паабяцалі паспрыяць у набыцці лекаў, медыцынскага абсталявання, інвалідных калясак.

Абласному аддзяленню "Фонду міласэрнасці і здароўя" яны перадалі гуманітарны груз — дзіцячае харчаванне, якое будзе накіравана ў дзіцячыя бальніцы, паліклінікі і дзецям перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

ДЫСКУСІЙНАЯ ТРЫБУНА

# Фундамент самакіравання

Як вядома, КС адмяніў рашэнне Вярхоўнага Савета аб ліквідацыі саставу дэпутатаў у пярвічным тэрытарыяльным узроўні мясцовых Саветаў — фундаменце самакіравання ў Беларусі. Самакіраванне — ёсць паняцце палітычнае, яно цесна звязана з рэалізацыяй улады на ўсіх яе ўзроўнях. Калі самакіраванне робіцца перашкодай у ажыццяўленні цэнтральнай палітычнай улады, то, нягледзячы на ўсе свае прагрэсіўныя элементы, яно можа быць "эфектна" адкінута. Так, у выніку стварэння прэзідэнцкай вертыкалі ўлады было б ліквідавана не многа, але і не мала: 1448 сельскіх Саветаў, 109 пасялковых, 64 гарадскія (у гарадах раённага падпарадкавання), 25 раённых у гарадах. Ліквідацыя планавалася ў інтарэсах мясцовага насельніцтва і пад выглядам рэалізацыі палажэнняў новай Канстытуцыі. Аднак, відаць, заканадаўцы, праводзячы рэформу мясцовага кіравання і самакіравання, як кажуць, забілі ў званы, не заглянуўшы ў святцы, у Канстытуцыю. Канстытуцыя сведчыць: народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы (арт. 3); кожны мае права на свабоду аб'яднанняў (арт.36); грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права ўдзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў як непасрэдна, так і праз свабодна выбраных прадстаўнікоў (арт.37); мясцовыя Саветы дэпутатаў выбіраюцца грамадзянамі адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак тэрмінам на чатыры гады (арт.118). А ў прэамбуле Канстытуцыі запісана, што народ Рэспублікі Беларусь прымае гэту Канстытуцыю, абапіраючыся на шматвяковае развіццё і няспыннасць беларускай дзяржаўнасці, жадаючы забяспечыць непарушныя асновы народаўладдзя і прававой дзяржавы.

Так, Саветы можна лічыць дэкаратыўнымі і безуладнымі, але не па іх віне — Вярхоўны Савет не прадаставіў ім сур'ёзных эканамічных і фінансавых паўнамоцтваў, таму патрабаваць ад іх эфектыўнай работы, прынамсі, наіўна і нельга. Трэба даць правы і рэфармаваць у сапраўдныя органы народнага самакіравання. Другая верагодная прычына неадбыўшайся ліквідацыі Саветаў — зняцце з пасад наменклатурных кіраўнікоў мясцовых Саветаў, якія пагразлі ў хабарніцтве і карупцыі. Але ці многа мы ведаем судовых працэсаў, якія б прызналі іх такімі? Барацьбу з некаторымі асобамі нельга пераносіць на ўвесь орган мясцовай улады. Калі прычына толькі ў гэтым, то неабходна прыняць закон аб забароне былым савецкім наменклатурным работнікам займаць кіруючыя пасады ў Савеце. Такі вопыт ужо ёсць у Чэхіі, у краінах Балтыі. Ёсць і велізарны айчынны вопыт. Так, напрыклад, пасля адмены прыгоннага права ў Расіі ў 1861 годзе памешчыкі былі пазбаўлены права быць выбранымі ў састаў органаў валаснога самакіравання, удзельнічаць у іх выбранні, аказваць на іх які-небудзь іншы патрыманіяльны ўплыў. У першыя гады савецкай улады састаў мясцовых Саветаў часта перавыбіраўся як адкрытым, так і тайным галасаваннем. Можна абмежаваць займанне кіруючых пасад у Савеце не больш як двума тэрмінамі запар і г.д.

Прычыны, якія дыктуюць захаванне мясцовай прадстаўнічай улады, выклікаюцца шматлікімі культурнымі, грамадскімі, эканамічнымі і іншымі патрэбнасцямі, якія яны закліка765 задавальняць. Возьмем, напрыклад, сельскія школы. Ці можа кіраўнік мясцовай адміністрацыі ажыццявіць рамонт ці будаўніцтва новай школы, арганізаваць падвоз дзяцей у школу, наладзіць ім гарачае харчаванне, забяспечыць жыллём настаўнікаў без жывой зацікаўленасці і ўдзелу самога насельніцтва, якое пражывае на дадзенай тэрыторыі? Бо яму скажуць: "Ты ўлада, табе і вырашаць". А вось калі гэтыя функцыі знаходзяцца ў падпарадкаванні мясцовага насельніцтва, мясцовай улады, якую выбірае насельніцтва, то адносіны людзей, несумненна, іншыя. Прадстаўніку адміністрацыі не пад сілу ўадзіночку вырашаць мясцовыя праблемы. Вырашэнне мясцовых праблем з'яўляецца магчымым толькі з дапамогай і ўдзелам самога насельніцтва, яго прадстаўнічых органаў.

Саветы як прадстаўнічыя органы мясцовага самакіравання маюць перавагу ў параўнанні з прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі ў справе задавальнення мясцовых патрэбнасцей. Дэпутаты, насельніцтва як падаткаплацельшчыкі будуць зацікаўлены ў задавальненні першачарговых патрэб і патрэбнасцей тэрыторыі, у рацыянальным і эканомным расходаванні сродкаў. Саветы дэпутатаў валодаюць здольнасцю акумуліраваць у сабе дадатковыя фінансавыя рэсурсы тэрыторыі. Дэпутаты заўсёды прыслухоўваюцца да грамадскай думкі, таму што яны пастаянна адчуваюць за сабой кантроль сваіх выбаршчыкаў. Прадстаўнікі ж адміністрацыі на месцах сталі б задавальняць патрэбнасці насельніцтва шаблонна, без уліку мясцовых умоў, без узгаднення з насельніцтвам, таму што яны імі не выбіраюцца і ім не падпарадкоўваюцца. Чыноўнік вырашае самастойна, якія справы неабходна разглядаць на мясцовым узроўні ў першую чаргу, і дзейнічае па інструкцыі, зацверджанай зверху.

Калі народ не будзе мець магчымасці прымаць удзелу ў вырашэнні мясцовых праблем, не будзе мець права адстойваць свае грамадскія інтарэсы, то ён павінен разлічваць на волю лёсу, стане апатычным і абыякавым да ўсяго, што адбываецца, пастараецца стаць утрыманцам дзяржавы і пачне патрабаваць розныя льготы і перавагі. Саветы як прадстаўнічыя органы мясцовага самакіравання неабходна захаваць, можна таксама адначасова ўзмацніць прэзідэнцкую вертыкаль улады на месцах, раздзяліўшы дакладна іх кампетэнцыю, але з умовай, што яны абавязаны ўзаемадзейнічаць пры вырашэнні мясцовых праблем і надзелены правам кантраляваць адна адну. Самакіраванне з'яўляецца магутным сродкам падтрымкі цэнтральнай улады.

Ліквідацыя мясцовых Саветаў магла быць буйной нацыянальнай і палітычнай памылкай, незаконна спыніць пераемнасць дзяржаўнай улады на мясцовым узроўні, прывесці да страты набытага вопыту ў самакіраванні, аднавіць які нялёгка. Прыкладам таго з'яўляюцца нашы земствы дарэвалюцыйнага часу, ліквідаваныя савецкай уладай. А менавіта земствы мелі вялікія заслугі ў галіне народнай адукацыі, аховы здароўя, паляпшэнні мясцовых шляхоў зносін, садзейнічалі мясцоваму земляробству, гандлю і прамысловасці і г.д. Мясцовыя Саветы неабходна трансфармаваць у органы мясцовага самакіравання. Усюды, якую б дзяржаву мы ні ўзялі, імкнуцца захаваць і развіць мясцовае самакіраванне, яно з'яўляецца фундаментам дзяржавы, які дапамагае ёй выстаяць у час любых знешніх і ўнутраных узрушэнняў. Велізарнае значэнне мае самакіраванне і для грамадзян. Кіраванне насельніцтва рознымі галінамі мясцовага грамадскага жыцця развівае творчую ініцыятыву народа, разнявольвае яго. Удзел народа ў самакіраванні выхоўвае грамадзян у духу свабоды і адказнасці за свае дзеянні, умацоўвае законнасць у грамадстве, прывівае пачуццё павагі да правоў і свабод іншых грамадзян.

Нельга таксама адмаўляць і тое, што пасля прыняцця новай Канстытуцыі, дзейнасці Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь у народа прыкметна павысіўся ўзровень прававой свядомасці, ён рэальна атрымаў правы і свабоды, у тым ліку правы на грамадскую ініцыятыву і самадзейнасць. Удзел народа ў кіраванні з'яўляецца краевугольным каменем дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Трэба памятаць, што адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ (арт. 3 Канстытуцыі).

Валерый КАДАУБОВІЧ.

ВЫ НЕ ЧУЛІ?

# У эфіры — тэлекампанія "Мінск"

*Падзея, пра якую так доўга гаварылі лідэры недзяржаўнага тэлебачання, адбылася. Беларуская тэлекампанія "Мінск" ужо другі тыдзень вядзе перадачы праз спадарожнік на Заходнюю Еўропу, еўрапейскую частку СНД, поўнач Афрыкі. Пра нас даведваюцца ўсё новыя дзяржавы.*

З дырэктарам тэлекампаніі "Мінск", Прэзідэнтам Беларускай асацыяцыі недзяржаўнага тэлебачання (БАНТ) Мікалаем Ігнаценкам гутарыць Валерый Калеснікаў.

***— Мікалай Іванавіч, віншую з выхадам тэлекампаніі "Мінск". Безумоўна, гэта гістарычная падзея ў жыцці рэспублікі, якая павінна ўзняць яе міжнародны прэстыж. Раскажыце пра праект і першыя крокі работы ў эфіры.***

— Праект рэалізуецца навукова-вытворчым аб'яднаннем "Окта". А ў тым, што ён пачаў ажыццяўляцца, заслуга генеральнага дырэктара Канстанціна Барoдкі. Аб узроўні навуковай прапрацоўкі гаворыць той факт, што на мінулым тыдні ў "Окту" з Масквы прыязджаў акадэмік Віктар Міхайлавіч Быкаў — свяціла сусветнай навукі, які таксама ўдзельнічае ў рэалізацыі праекта. І, дарэчы, акадэмік разам з кіраўніцтвам "Окты" быў прыняты з гэтай нагоды ў Міністэрстве сувязі і інфарматыкі міністрам Уладзімірам Іванавічам Ганчарэнкам. Так што ацэнка экспертамі дадзена высокая і ў Беларусі, і за мяжой.

Цяпер пра першыя вынікі работы ў эфіры. Безумоўна, выхад тэлекампаніі "Мінск" у эфір — падзея неардынарная. Мы ўжо атрымалі дзесяткі званкоў і факсаў з-за мяжы. Цікавяцца інфармацыяй аб тэлекампаніі, прапануюць супрацоўніцтва. Цікава, што іншы раз прыходзіцца доўга растлумачваць, што ёсць Беларусь і што Мінск гэта сталіца краіны. Часта тэлефануюць эмігранты, якія жывуць у Ізраілі, Германіі, віншуюць, радуюцца за нас. З'яўляецца гордасць за беларускую дзяржаву.

***— Які расклад і рэпертуар праграм?***



—Зараз мы рыхтуем невялікія інфармацыйныя перадачы пра Беларусь. Аснова эфірнай сеткі — тэлепраграмы, фільмы СНД, сярод якіх і фільмы пра рэспубліку. Працуем у эфіры штодзень з 18.00 да 24.00 па маскоўскаму часу.

***— Як тэхнічна ажыццяўляецца вяшчанне?***

— Пакуль вяшчаем з тэлепорта ў Дубне, гэта пад Масквой. Адтуль сігнал ідзе на штучны спадарожнік Зямлі "Гарызонт", а далей трансліруецца на тэрыторыю, указаную на малюнку.

***— Значыць, вы будзеце залежаць ад тэлепорта пад Масквой?***

— Толькі на першым этапе. У трэцім квартале 1995 года мы плануем завяршыць будаўніцтва свайго тэлепорта пад Мінскам, адкуль і будзе весціся трансляцыя. Пытанне аб яго будаўніцтве абмяркоўвалася на мінулым тыдні ў Міністэрстве сувязі і інфарматыкі.

***— Але ж гэта звязана з затратамі, якія складаюць некалькі мільёнаў даляраў...***

— Я ўжо казаў пра высокі навуковы ўзровень праекта. Фінансавае абгрунтаванне праекта таксама зроблена на адпаведным узроўні. Праект рэнтабельны і акуплены.

***— Мікалай Іванавіч, ці не адаб'ецца на БАНТ сумяшчэнне вамі яшчэ і абавязкаў дырэктара ТК "Мінск"?***

— Я думаю, не адаб'ецца, а яшчэ і дапаможа. Тэлекампанія "Мінск" выкарыстоўвае толькі ліцэнзійныя праграмы, набытыя законным шляхам. Члены БАНТ, гэта значыць усе самыя буйныя вяшчальныя недзяржаўныя станцыі, змогуць прымаць спадарожнікавую праграму і выкарыстоўваць яе. Такім чынам, колькасць выкрадзеных і незаконна набытых праграм у Беларусі рэзка знізіцца. А ў выніку — міжнародны прэстыж.

НАБАЛЕЛА

## Чалавек у калясцы

Спыніся, жыццё! Спыніся хоць на хвіліну , каб мы маглі лепей разглядзець цябе з усіх бакоў, каб змаглі парадавацца тваёй шматкаляровасці , каб стала нам крыху сорамна за сябе і за свае ўчынкі.

Іду я нядаўна па праспекце , сыплецца з неба дробны сняжок.І раптам бачу: два хлопцы з чагосьці смяюцца , і так ім весела , хіба што пальцамі не паказваюць у той бок.Ну , добра , калі ім так смешна , можа і мне туды паглядзець.І я парадуюся. Азірнулася я і бачу: па самай праезнай частцы , збоку ад непасрэднага руху коціць сабе чалавек у інваліднай калясцы .

Хлопцы ўжо даўно забыліся пра яго , разглядваюць нешта занадта цікавае ў вітрыне кіёска, а я азірнулася яшчэ раз: чалавек працягвае свой шлях . Коціць і коціць , не спяшаючыся, спыніўся на момант, каб раскурыць цыгарку , і зноў далей..

А міма праносяцца іншамаркі, і людзі азіраюцца і паціскаюць плячыма . А мне чамусьці стала холадна і захацелася плакаць ...

Крысціна КУРЧАНКОВА.

ЗВАНОК НА ЎРОК

Дружны, творчы калектыў педагогаў працуе ў сярэдняй школе пасёлка Ленінскі Жабінкаўскага раёна. Менавіта неардынарны падыход да навучальнага працэсу даў магчымасць школе стаць упоравень з гарадской. Тут больш за 30 працэнтаў выпускнікоў паступае ў ВНУ рэспублікі.

Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.

Сто артыкулаў

# ФАДЗЕЙ

*САФРОНЕНКА Барыс Эдуардавіч, журналіст, нарадзіўся ў 1954 годзе ў Мінску. Скончыў Белдзяржуніверсітэт, пастаянны аўтар нашай газеты.*

Фадзей Бенядзіктавіч Булгарын, пісьменнік, якога, бясспрэчна, лаюць больш за іншых. Вось ужо сто пяцьдзесят гадоў не спыняецца паток адмоўных, уніжальных, а часта і зневажальных характарыстык у яго адрас: агент царскай ахранкі, душыцель маладых талентаў, ініцыятар цкавання агульнапрызнаных талентаў, бяздарны літаратар, чалавек без усялякіх прынцыпаў і пераканнняў, — прыклады такіх водгукаў можна множыць і множыць.

А, між тым, усе гэтыя філіпікі ў адрас пісьменніка зусім не вяжуцца з некаторымі агульнапрызнанымі фактамі. Напрыклад, з тым, што бессмяротны А.С. Грыбаедаў лічыў Булгарына сваім лепшым сябрам, менавіта яму, а не каму іншаму, ён даверыў рукапіс "Гора ад розуму", ад'язджаючы ў Персію, адкуль ужо не вярнуўся. Менавіта Булгарын упершыню выдаў гэту камедыю пасля смерці аўтара, а пры яго жыцці друкаваў фрагменты з яе, а пасля напісаў біяграфію аўтара "Гора ад розуму", першую і адну з лепшых, што было агульнапрызнана, па багаццю і выверанасці фактычнага матэрыялу. Ніхто іншы, як А.С.Пушкін, пазней недружалюб Булгарына, пісаў у 1824 годзе, што Фадзей Бенядзіктавіч належаў "да малой колькасці тых літаратараў, ганьбаванні і пахвалы якіх могуць і павінны быць паважанымі. А як звязаць сцвярджэнні аб бяздарнасці Булгарына з фактам, што яго кнігі пры жыцці карысталіся найвялікшай папулярнасцю народа. Скажам, раман "Іван Выжыгін", які быў адразу пасля выхаду з друку перакладзены на французскую, англійскую, нямецкую, італьянскую, шведскую, польскую і яшчэ сем моў, чаго да Ф.М.Дастаеўскага і Л.М.Талстога не ўдастойваўся ніводны рускі пісьменнік, уключаючы і А.С.Пушкіна. Замежных перакладчыкаў, якія жылі ў розных краінах, царская ахранка не магла прымусіць працаваць.

Булгарын быў чалавекам неардынарным. Таму і ацэнкі яго жыцця і творчасці неардынарныя, адлюстроўваюць, няхай нават падсвядома, раздражнёнасць даследчыкаў, якія прывыклі ўсіх і ўсё ў літаратуры рэгламентаваць, да асобы, што ні пад якія рэгламенты не павінна трапляць.

Яго бацька Бенядзікт (Венядзікт) — беларускі дваранін, пражыў даволі бурнае, поўнае прыгод і здарэнняў жыццё. Спачатку ён быў ляснічым у прадвадзіцеля дваранства Слуцкага павета А.І.Непакойчыцкага, а потым служыў у вельмі багатых магнатаў Радзівілаў для аказання розных канфідэнцыяльных паслуг, а жыў на хутары Перышава Слуцкага павета Мінскай губерні, дзе ў 1789 годзе і нарадзіўся Фадзей.

Яшчэ задоўга да нараджэння сына Бенядзікт Булгарын у прыпадку шаленства забіў рускага генерала Воранава, які кватараваў у яго доме, за што быў прыгаворaны да вечнай ссылкі ў Сібір, дзе, паводле афіцыйных звестак, і скончыў свае дні. На самай жа справе Радзівілы, велізарнае багацце якіх дазваляла ўсё, перапраўлілі Бенядзікта з сібірскай тайгі прама ў Нясвіж, дзе пан Станіслаў Радзівіл даў "нябожчыку" чарговае канфідэнцыяльнае даручэнне — ні многа, ні мала, выкрасці на поўдні Расіі вядомую авантурыстку XVIII стагоддзя князёўну Тараканаву, якая разлічвала, як уяўная дачка Лізаветы І, заняць расійскі прастол. Бенедыкт Булгарын з загадам справіўся, вывез князёўну Тараканаву ў Італію. Далейшыя падзеі, без усякага ўпамінання імя беларускага шляхціча выкладзены ў шырока вядомым рамане Данілеўскага, гістарычным эсэ Мельнікава-Пячэрскага, а таксама ў творах іншых аўтараў. Нагадаю: вельмі абаяльны Аляксей Арлоў па дамоўленасці з Кацярынай ІІ выкраў прэтэндэнтку на трон, яшчэ зладзейку і спакусіў. Расійская Імператрыца за гэта ласкава прыняла Аляксея Арлова, што не перашкодзіла магутнай неўзабаве змяніць яго на іншага фаварыта. Значна менш вядома, што Станіслаў Радзівіл быў незадаволены тым, што Бенядзікт Булгарын упусціў у Італіі князёўну Тараканаву і праз некаторы час, пры зручным выпадку, стараючыся быць у добрых адносінах з расійскімі ўладамі, выдаў ім забойцу генерала Воранава. Без асаблівага шуму таго павесілі па прыгавору Нясвіжскага суда. Але гэта не перашкодзіла жонцы Бенядзікта перабрацца з пяцігадовым тады Фадзеем у Пецярбург, а яшчэ праз некалькі гадоў, у 1798 годзе, аддаць хлопчыка ў Сухапутны кадэцкі корпус. Пасля заканчэння навучання маладога афіцэра назначылі ў Кіеўскі ўланскі полк. Але з-за лішняй вагі Фадзея Булгарына адлічылі і перавялі ў пяхотны полк. Потым быў Ямбургскі драгунскі. Ён прымаў удзел у вайне супраць Напалеона ў Прусіі ў 1807 годзе. Ваенная кар'ера наладзілася і ішла нядрэнна. Ён нават атрымаў ордэн, але, будучы маладым, Фадзей Булгарын пачаў пісаць сатырычныя вершыкі на шэфа свайго палка вялікага князя Канстанціна. А той і ад сталых сенатараў крытыкі не выносіў, не тое што ад неспрактыкаванага юнака. Перавялі Булгарына ў правінцыю, а перад нашэсцем Напалеона яго наогул, згодна з вынікамі атэстацыі, адхілілі ад службы.

Сатырычныя вершы на ваенную тэматыку, і найбольш вострыя, пісаў, напрыклад, і Дзяніс Давыдаў. Але ў таго і званне было вышэйшае, і сваякоў уплывовых больш, і маёнтак багаты, куды ўваходзіла, напрыклад, вёска Барадзіно пад Масквой. Так што ў арміі Давыдаў застаўся, у званнях павышаўся, а Фадзей Булгарын вымушаны быў пераканацца, што дарогі да ваеннай кар'еры ў рускай арміі яму няма. Не стаў прабіваць ілбом сцяну ваеннага бюракратызму, а ўспомніў, што ён шляхціч, паехаў у Варшаву, і, паводле яго ўласных слоў, "захацеў палятаць за белымі арламі (польскі герб) і пашукаць незалежнасці айчыны". У тых абставінах незалежнасць гэта звязвалася з імем Напалеона. Ваяваў Булгарын у саставе Польскага легіёна ў Іспаніі, здзейсніў у складзе напалеонаўскіх войск шматпакутны паход у Расію. Ужо адно гэта можа пахіснуць далейшыя абвінавачанні Булгарына ў адсутнасці ўсялякага патрыятызму. Іншая справа, з цягам часу змяніліся яго асабістыя погляды на рускае самадзяржаўе. І гэту перамену цалкам можна растлумачыць. Пасля краху Напалеона не адбывалася ніякіх рэпрэсій у адносінах да беларусаў і палякаў, якія ваявалі на яго баку. У 1816 годзе Аляксандр І аб'явіў ім усім амністыю.

Сама па сабе гэтая амністыя можа моцна пахіснуць сцвярджэнні, якія ўнушаліся са школьнай парты, аб нібыта бяздушных тыпова каланізатарскіх адносінах Расіі да Польшчы. Можна яшчэ ўспомніць, што рускі цар падарыў польскай тэрыторыі сваёй імперыі Канстытуцыю, палажэнні якой на астатнюю Расію не распаўсюджваліся, гэта значыць, зрабіў Польшчу самай свабоднай часткай сваёй дзяржавы. Знамянальны і той факт, што намеснікам Польшчы Аляксандр хацеў бачыць спачатку зусім не свайго брата Канстанціна, А Тадэвуша Касцюшку. Будучы ў Парыжы, Імператар даў яму аўдыенцыю і нават загадаў варце палаца аддаваць яму фельдмаршальскія ўшанаванні. Касцюшка сам адмовіўся ад намесніцтва, атрымаўшы адмоўны адказ на пытанне: ці будзе аднаўлена Польшча ў ранейшым выглядзе, як да першага яе падзелу. Да Касцюшкі меў яшчэ прыхільнасць Павел І, які вызваліў яго з даволі мяккай ссылкі і ўзнагародзіў пры ад'ездзе з Расіі грашыма, коньмі і футрам з царскага пляча.

Сённяшнія ж палітызаваныя гісторыкі паказваюць Касцюшку як пакутніка, ухіляючыся ад усебаковай ацэнкі славутага змагара. Сапраўдны ж партрэт Касцюшкі можа быць толькі шматфарбным, адпавядаючым складанаму часу, у які давялося яму жыць. Постаць героя, намаляваная адной нават самай яркай фарбай, скажае сапраўдную сутнасць, выклікае недавер. Каму патрэбна такая паслуга?

Само па сабе ўсплывае ў памяці і як прымалі ссыльнага Адама Міцкевіча ў Пецярбургу, а потым на месцы "ссылкі" — на чарнаморскім узбярэжжы Крыма.

